Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

3–9 ВЕРАСНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№36 (228)

## АДНА ЗЯМЛЯ

АШМЯНЫ

### За ўласны кошт

На шашы Мінск–Вільня з"явілася новая АЗС, яе ўладальнік – мясцовая асацыяцыя "Аграсакрат".

Будавалася станцыя пяць год і абышлася "Аграсакрату", згодна з калькуляцыяй мінулага года, у 4 мільярды рублёў. Асаблівай папулярнасцю АЗС карыстаецца ў літоўцаў. Калі для нашых аўтааматараў цэны на бензін "кусаюцца", то для літоўцаў з'яўляюцца прымальнымі. Адзінае, што заліць у бак аўтамабіля, згодна з рашэннем Ашмянскага райвыканкома, можна не больш за 20 літраў. *Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АСТРАВЕЦ

### Спірт, цыгарэты і камп'ютэры

Быццам пчолы мёд, аблюбавалі апошнія гады злачынцы склады Ашмянскай мытні, якія знаходзяцца на аптова–гандлёвай базе Астравецкага райспажыўтаварыства. Спачатку адтуль былі скрадзеныя аўтамабілі са спіртам, а затым цыгарэты. Гэтыя гучныя справы і па сённяшні дзень засталіся нераскрытыя. І вось новы "падарунак".

Са складоў бясследна зніклі 8 камп'ютэраў "Pentium II", якія ацэненыя ў 4 мільярды рублёў. Праваахоўныя органы займаюцца пошукам злачынцаў. *Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АСТРАВЕЦ

### Японцы на астравецкай зямлі

У мінулую суботу Астравеччыну наведаў часовы паверары ў справах Японіі ў Беларусі пан **Нацуі.**

Яго візіт меў на мэце пазнаёміцца з тымі мясцінамі, дзе жыў вядомы даследчык **Іосіф Гашкевіч**. Падчас наведання Маляў пану Нацуі паказалі экспазіцыю у бібліятэцы, прысвечаную Іосіфу Гашкевічу. Японскі госць сустрэўся з дырэктарам Скарынінскага цэнтра **Адамам Мальдзісам**.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Маладзечна з гарачай вадой

Чуткі, што гарачая вада ў кватэры будзе падавацца толькі чатыры дні на тыдзень (з чацвярга па нядзелю) імі і застаюцца.

Як нам паведаміў намеснік дырэктара Маладзечанскіх электрасетак **Леанід Кузняцоў**, пакуль абмежаванняў на гарачую ваду не будзе. Іншая справа, што не ўсім яе далі – шматлікія пашкоджанні пакуль не ліквідаваныя.

*Аддзел інфармацыі.*

АСТРАВЕЦ

### Ці будзе ў дамах газ?

Ад пачатку вясны у мікрараёне "Партызанскі" райцэнтра вяліся работы па газіфікацыі жылых дамоў. Падрадчык НП "Лідагазбуд" праклала трубы па вуліцах і практычна на гэтым спыніла работы з–за адсутнасці фінансавання.

Такая сітуацыя, як патлумачыла "РГ" інжынер упраўлення капітальнага будаўніцтва **Ала Садоўская**, склалася таму, што ў мясцовым бюджэце, а газіфікацыя фінансуецца з яго, не хапае грошай. Асвоена амаль 9 мільярдаў рублёў – каб завершыць першую пускавую чаргу, патрэбна 17 мільярдаў. А яшчэ дадаць падвод трубаў у дамы і іншае.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

МЯДЗЕЛ – СМАРГОНЬ

### Прыехаў Лукашэнка

Учора Смаргонскі і Мядзельскі раёны наведаў **Аляксандр Лукашэнка**. Да прыезду былі зробленыя дзве верталётныя пляцоўкі ля Вішнева і Канстанцінава.

У Мядзеле Лукашэнку чакалі 2 тыдні таму падчас ягонага візіту на Вілейшчыну. А вось у Смаргоні – вясной. Тады думалі, што менавіта ён прыедзе цікавіцца станам спраў на мясцовых прамысловых гігантах: агрэгатным заводзе і ЗАСе. Цяпер жа Лукашэнка вырашыў пацікавіцца ў нашым рэгіёне асабістымі падворкамі сялян. Засуха не пакінула надзей на калгасы, дзе ўраджайнасць збожжавых часта вагаецца ў межах 10–11 цэнтнераў з гектара, а бульбы – 80–100. Да таго ж, у сельскай гаспадарцы нашага краю чакаецца масавае выразанне жывёлы – карміць няма чым. *Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Цуды на дарогах

31 жніўня на скрыжаванні вуліц Віленскай і імя Чарняхоўскага шматтонны прамысловы станок саслізнуў з кузава КамАЗа з нумарамі Віцебскай вобласці. Незамацаваны груз мог стаць прычынай сур"ёзных непрыемнасцяў. Людзі не пацярпелі. А да канца дня дзіркі на праезнай частцы былі заасфальтаваныя. *Аўтааматар.*



ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

ВОСЬ І ЛЕТА ПРАЙШЛО

## 1 верасня прыйшло ў школы

У сярэдняй школе №3 Вілейкі навіна – пачалі працаваць ліцэйскія класы. Калі я спытаў у дырэктара школы **Мікалая Гіро**, што азначае словазлучэнне "ліцэйскі клас", ён патлумачыў:

– Гэта супрацоўніцтва з вышэйшай навучальнай установай, плюс уступныя экзамены ў гэтыя класы. Ліцэйскія класы – не значыць проста класы з профільным навучаннем.

У школе набраны біёлага–медыцынскі клас на аснове супрацоўніцтва з Мінскім дзяржаўным медінстытутам. Тут уступнымі экзаменамі былі хімія і фізіка. Паступалі ў гэтыя класы не толькі "свае" дзеці, а нават з–за межаў раёна. Адна дзяўчынка, прачытаўшы інфармацыю ў "Рэгіянальнай газеце", прыехала з Крывічоў. Паступіла, уладкавалася кватараваць у горадзе і будзе вучыцца. У іншым ліцэйскім класе, праваым, вучацца дзеці і з вёсак Вілейскага раёна. "Праваікі" супрацоўнічаюць з Акадэміяй міліцыі пры Міністэрстве унутраных спраў Беларусі.

А адзін з дзевятых класаў сёлета пачынае супрацоўніцтва з Мінскім дзяржаўным педуніверсітэтам замежных моў. Магчыма, і ён перарасце ў ліцэйскі клас.

Увогуле, трэцяя школа Вілейкі традыцыйна дае трывалыя веды. Настаўнікам не сорамна за сваіх выпускнікоў. Сёлета з фізіка–матэматычнага класа **Вольгі Дзяянавай**, філолага–беларусіста, з 23 выпускнікоў 17 паступілі ў сталічныя ВНУ, 1 – у магілёўскую вышэйшую навучальную установу, 1 – на падрыхтоўчае аддзяленне ВНУ, 4 – у тэхнікумы і вучылішчы. З іншых выпускных класаў таксама большасць вучняў знайшлі сябе.

У Вілейскім раёне працуюць 40 настаўнікаў–ветэранаў. 9 з іх – у гарадской школе №3. А новае папаўненне – у асноўным, са сваіх выпускнікоў. Сёлета з пяцёх маладых настаўнікаў чацвёра колькі год таму самі былі выпускнікамі гэтай школы.

Першы званок сёлета прагучаў з рук старшакласнікаў **Юлі Ціток**, пераможцы рэспубліканскай алімпіяды па хіміі і **Дзяніса Лубінскага** – пераможцы абласной алімпіяды па фізіцы. Школьны званочак, як эстафетная палачка, перадаецца з рук у рукі. З надзейных рук. У не менш надзейныя.

*Мікола ГАЙДУК.*



*...І мікрафоны тут нейкія дарослыя... Першага верасня на ўрачыстай лінейцы ў сярэдняй школе №3 Вілейкі. Вітаюць прысутных самыя маленькія школьнікі.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## Суд Смаргоні папярэджвае скаўтаў з Маладзечна

*МАЛАДЗЕЧНА. Вандроўны маладзёжны летнік "Нарачанка–99" на гэты раз прайшоў без запланаваных вандровак. Прычына таму — своеасаблівая рэакцыя смаргонскіх міліцыянераў на два бела—чырвона—белыя сцягі.*

Старшыня Маладзечанскай харугвы аб'яднання беларускіх скаўтаў імя Льва Сапегі **Алесь Чарняўскі**:

– Толькі мы прыйшлі ў сядзібу Міхала Клеафаса Агінскага, селі пад'есці, як пад'ехалі да нас пяцёра міліцыянераў. Усе званнем не ніжэй за капітана. Як пабачылі два бела–чырвона–белыя сцягі, мяне, як старэйшага і начальніка летніка, абвінавацілі ў несанкцыянаваным шэсці па Залессі. Склалі пратакол. Мы палічылі, што няма сэнсу крочыць далей. Могуць узнікнуць складанасці і ў іншых месцах. Хаця, прыкладам, нават згаданыя сцягі мы выкарыстоўвалі і для таго, каб было відаць калону (адзін дзеці неслі наперадзе, другі – адзаду).

Маршрут скаўтаў планаваўся па трох раёнах – Маладзечанскім, Смаргонскім і Валожынскім. Таксама планавалася наведаць Крэва, Багданаў, Гальшаны. Аднак ім параілі лепш сядзець у лесе:

– Кожны ваш крок павінен фіксавацца.

– Выклікаў міліцыянтаў гаспадар, старшыня Залескага сельвыканкома, – гаворыць Алесь Чарняўскі. – Пры гэтым старшыня дакладна нас пералічыў. Адзначу, што афіцэры паставіліся да нас без хамства.

Скаўты (а яны былі з Мінска, Салігорска, Барысава, Нясвіжа, Жодзіна, Браслава, Оршы, Смаргоні, Маладзечна – 140 падлеткаў 14–16 гадоў) ля вёскі Ручыца разбілі палаткі. Скарэктавалі праграму. Больш месца ў праграме летніка занялі гістарычныя віктарыны, спартыўныя спаборніцтвы, мастацкая самадзейнасць. На сустрэчу з падлеткамі прыязджаў святар грэка–каталіцкай царквы айцец Андрэй. Разам з дзецьмі ва ўсіх пачынаннях бралі ўдзел вядомыя беларускія барды Зміцер Бартосік, Віктар Шалкевіч, Андрэй Мельнікаў, пісьменнік Віктар Чаропка.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Палаткі скаўтаў ля вёскі Ручыца.*

ФОТА З АРХІВА АЛЕСЯ ЧАРНЯЎСКАГА.

 



ЮБІЛЕЙ

# Вілейка адсвяткавала свой дзень

*Вілейка адзначыла чатырохсотгоддзе. Весела і прыстойна. З максімумам усмешак і прымальнай колькасцю людзей нападпітку. Карацей, без эксцэсаў, але каб запомнілася надоўга. Прынамсі, да наступнага юбілею. Які можа наступіць, трэба сказаць, крыху раней, чым таго многія чакаюць.*

Тры дні да берагах Віллі віляйчане і госці з–за межаў горада і краіны спявалі, танцавалі, жартавалі. Свята сапраўды ўдалося. Нечаканасцяў не было. Нават запісу перадачы "Землякі" дождж не асмеліўся перашкодзіць. Хаця хацеў.

Арганізатары фэсту зрабілі яго цікавым і для дзятвы, і для дарослых. А што, урэшце, людзям трэба? Добрае надвор"е, шашлык з келіхам піва, ды каб са сцэны хто забаўляў. Акрамя сцэнічных нумароў, у праграме было прадстаўленне народных промыслаў (уражвае ўмельства мясцовых майстроў плесці з саломкі, мастацтва стварэння мяккіх цацак), паказальныя выступленні спартсменаў, адкрыццё выстаўкі мастака з Расіі Андрэя Сакалова.

Але, на жаль, цалкам свецкае свята ператваралася ў некаторыя моманты ў свята рэлігійнае, свята толькі для вернікаў. Прычым, адной канфесіі. З–за чаго нават атракцыёны ў парку не працавалі – галава беларускай часткі Рускай праваслаўнай царквы мітрапаліт Філарэт служыў ў царкве малебен. Прадбачу незадаволенасць артадаксальнай часткі публікі ў мой адрас. Але, выбачайце, я кажу аб сваіх уражаннях, якія грунтуюцца толькі на фактах. Мерапрыемствы рэлігійнага характару ў агульнай праграме жыццярадаснага свецкага свята занялі больш як тры гадзіны.

Ну, ды богу – богава.

Сапраўды парадавалі выступленні і прафесійных калектываў – наш зямляк Міхаіл Казінец прывез са сталіцы Дзяржаўны акадэмічны аркестр імя Жыновіча – і выступленні самадзейных артыстаў. Але самадзейных – не значыць горшых. Студыя "Экспромт" заўсёды збірае добрыя апладысменты.

Запіс праграмы "Землякі" нават без юбілейных святкаванняў стаў бы падзеяй. А ў праграме свята гэта было вельмі удалым акордам пры заканчэнні насычанай трохдзённай праграмы. Сцэна пад адкрытым небам на галоўнай плошчы горада зрабіла магчымым прысутнічаць на запісе перадачы не толькі шчаслівым уладальнікам запрашальных білетаў. А феерверк для віляйчан, не вельмі спешчаных такімі сталічнымі штучкамі, увогуле быў як глыток халоднай кока–колы ў перыяд, калі лепш за "Бураціна" мы нічога не каштавалі.

*Мікола ГАЙДУК.*


Мастак Эдуард Мацюшонак займаецца і фатаграфіяй. У дні свята ў продажы з"явіліся паштоўкі з відамі Вілейкі, аўтар мастацкіх здымкаў — Эдуард Мацюшонак.



Ану—тка рэбус разгадай! Колькі год Вілейцы і калі? Памятны знак і месца захоўвання капсулы з пасланнем да нашчадкаў.


Эх, пракачу! Дзятву і вясёлых дзядзькоў катаў па Вілейцы не менш вясёлы рымар.


У апошні дзень свята перад цікаўнымі гараджанамі выступілі спартсмены. Паказальнае выступленне каратыстаў пад кіраўніцтвам трэнера Анфісы Камінскай.


Мастак Сяргей Шусціцкі прыехаў з Маладзечна і душой адпачыць, і віляйчан пацешыць сваім мастацтвам. Праз колькі хвілін партрэт дзяўчынкі будзе гатовы.


Я шарык дагнала!

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

## Памылка Сапунова

400–гадовы юбілей Вілейкі сёлета святкавалі з–за недарэчнасці. У свой час гісторык Аляксей Сапуноў у вядомай працы "Материалы по истории и географии "Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии" (Віцебск, 1896, разам з В. Друцкім- Любецкім) піша: "...первым старостой был Пётр Пац в 1599 году...". У 1599 годзе уладальнікамі Старога Куранца (Вілейкі) былі Сапегі, а не Пацы. Гэта даказана абсалютна дакладна. Але, увогуле, адкуль у Сапунава, аўтарытэтнага гісторыка, пайшла памылка?

Хутчэй за ўсё, выданне гэтай працы было сацыяльным заказам (фундаваў яго князь Друцкі–Любецкі). У поле асноўных навуковых інтарэсаў Сапунова Вілейка (у адрозненне ад Полаччыны) не ўваходзіла. І, карыстаючыся, як крыніцай, працай з архіва "Економическое камеральное примечание поветового города Вилейки и его повета", (1800 год, С.–Пецярбург), замест звестак аб нашай Вілейцы ў навуковае абарачэнне трапляюць звесткі аб Вілейцы Барысаўскага павета (сённяшні Докшыцкі раён)! Гэта таксама даказана дакументальна. Побач са згадкай аб Вілейцы гаворыцца пра рэчку Лонва паблізу паселішча. А гэта, дакладна, тэрыторыя сённяшняй Лагойшчыны непадалёк той, а не нашай, Вілейкі.

На сённяшні дзень дакументальныя згадкі аб насельніках Вілейкі ў сённяшнім разуменні ёсць пад 1460 годам. У старажытных дакументах гаворыцца аб каралеўскіх куранчанах. Каралеўскі Куранец і ёсць той вялікакняскі двор Куранец на Вяллі на сітуацыйным плане, які вы бачыце справа. Дзень нараджэння Вілейкі, тым больш, 400 год таму, лічаць гісторыкі, ёсць нонсэнс. Горад Вілейка ўтвораны ў 1795 годзе 3 мая загадам Кацярыны Другой. А само паселішча шмат старажытней, і правільна будзе казаць аб яго генезісе, развіцці і паступовым пераўтварэнні ў тое, што мы маем сёння. Назва ж "Ві(я)лейка" у дачыненні да нашай Вілейкі з"явілася на мяжы 16–га і 17–га стагоддзяў, калі замест слоў "каралеўскі Куранец" пачынаюць ужываць слова Вялейка (Велейка).

Што рабіць з памылкай? Прабачыць Сапунову. І лічыць проста недарэчнасцю той памятны знак, які стаіць у цэнтры горада, амаль на месцы былога каралеўскага двара Куранец, з незразумелай датай 2099.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

## Аляксей Сапуноў



Аляксей Парфёнавіч Сапуноў нарадзіўся ў 1851 годзе ва Усвятах на Пскоўшчыне. Памер ў 1924 годзе. Беларускі гісторык і краязнаўца. Скончыў Пецярбургскі Універсітэт. Працаваў у Віцебскім цэнтральным архіве старажытных грамат, з 1897 года выкладчык Маскоўскага Універсітэта, з 1901 года сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта, удзельнік стварэння Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Прафесар. Аўтар шматлікіх прац па гісторыі, этнаграфіі, археалогіі і геаграфіі Беларусі. Памылка з "датай нараджэння Вілейкі" – прыкрая недарэчнасць, якая, вядома, не перакрэсліць значнасць укладу Сапунова ў Беларускую гістарыяграфію.



*Сітуацыйны план паселішчаў каля сяла Вялейскага пасля 1567 года. З новай экспазіцыі Вілейскага гісторыка—краязнаўчага музея. Рэканструкцыя* **Наталлі Яфімавай.** *Менавіта гэтыя населеныя пункты сталі ў канцы 18—га стагоддзя горадам Вілейкай. Мястэчка Куранец у некаторых гістарычных крыніцах называюць яшчэ Старым Куранцом , каб адрозніць ад новага, або ўласна Куранца па сённяшнім часе.*



 

*ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ*

# У Маладзечне згарэла 128 дамоў

**М. Маладэчна, Віленскай губ. Вілейскага пав.** (а пажары 18 аўгуста). Як толькі даведаліся ў г. Вілейцы а вялікім пажары ў Маладэчне, як бач, выехала на ратунак наша пажарная каманда; паехала і я з імі; пакуль дабраліся на мейсца, пажарным не было ўжо чаго рабіць: стрэхі дагаралі і пазаваліваліся ў сярэдзіну.

Рэчы, якія паспелі выкінуць, – гарэлі на вуліцы; з аптэкі і аптэчнага склада чуваць было стрэлы, бытцам з гарматоў: то разрывала вялізныя пляшкі запасных лекоў. Здавалася, ніадкуль няма ратунку. Некамусь прыйшло ў галаву пазвазіць выратаваныя рэчы ў мураваны склад, што стаяў на рынку, бо там і дзьверы і столь – усё было з жалеза; так і зрабілі, але як на бяду, забыліся аб адным маленькім ваконцы, і вось, як бы даганяючы, агонь убіўся праз гэтую шчыліну і зніштожыў усё. Згарэла і трое людзей, а колькі згінуло ўселякага дабра – то і палічыць трудна.

К–тя.

**Ст. Полочаны, Нікол. ж. дор., Віленскай губ. Ошмянскага пав.**

20 аўгуста тут праляцеў з людзьмі карабель па паветры.

Каля нашай станцыі ў ночы праляцеў метэор (бытцам агністы клубок), і так ясна засьвяціў нейкую мінуту, што як бы хто запаліў электрычэства.

*Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва". №36 ад 3 сеньцябра 1909 г.*

*Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.*

*МУЗЕЙ*

# Свойскай жывёле па тэрыторыі ГЭС хадзіць забараняецца

*МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскія электрасеткі адсвяткавалі 50–годдзе пуску першай турбіны гарадской электрастанцыі, якая некалі працавала практычна на тэрыторыі цяперашніх электрасетак. Да юбілею ўрачыста адкрылі музей прадпрыемства.*

– Сабраць гісторыю прадпрыемства параіў галоўны інжынер Іван Малінец, – гаворыць дырэктар музея **Ліна Ботнікава**. – Дырэктар МЭС Сяргей Сарычаў ініцыятыву падтрымаў. І калі ўзводзіўся новы адміністрацыйны будынак, на трэцім яго паверсе спецыяльна быў выдзелены пакой для музея.

Музей ствараўся 2 гады. Ліна Данілаўна ездзіла па архівах, хадзіла па кватэрах былых работнікаў, звярталася да тых, хто працуе цяпер.

– Гісторыю Маладзечанскіх электрасетак мы аднавілі ад першага загаду кіраўніка, – гаворыць Ліна Ботнікава. – А загады вельмі цікавыя. Напрыклад, №88 ад 16.05.49 "Не дапусціць выпадкаў хаджэння па тэрыторыі ГЭС свойскай скаціны: коней, кароў, коз, свіней, авечак і г. д. Дырэктар Кунцікаў". Ці вось яшчэ – "№51 ад 22.09.48. У мэтах забеспячэння святлом бальніцы па прычыне складаных там аперацый загадваю: дызель павінен працаваць без перапынку з 19–00 да 4 раніцы на працягу 2 дзён". Таксама ў музеі ёсць тэксты перадач Маладзечанскага радыё. Мы прасачылі 24 працоўныя дынастыі.



*Дырэктар музея маладзечанскіх электрасетак Ліна Ботнікава ля стэнда, прысвечанага дынастыям энергетыкаў прадпрыемства.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Знешні выгляд музея, можна сказаць, адпавядае еўрастандартам. Афармляў яго мастак электрасетак **Яўген Рагуновіч.** Сабраны матэрыял разбіты па раздзелах: зона абслугоўвання, кіраўніцтва, лепшыя работнікі, працоўныя дынастыі, ветэраны вайны і "афганцы".

– Напярэдадні святкавання юбілею па музейных матэрыялах мы лёгка выйшлі на тых, хто ў 1949 годзе даваў першы прамысловы ток і хто цяпер жыве ў горадзе, – гаворыць дырэктар музея, – і мы запрасілі на юбілей "пускавікоў" **Валянціну Рамановіч** – на той час дзяжурнага электраманцёра ля шчыта, **Аляксандра Сыракваша** – дзяжурнага інжынера змены, **Паўла Брушко** – майстра электрастанцыі, **Міхаіла Янушкевіча** – слесара па рамонце абсталявання, **Мікалая Вяля** – машыніста катла.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 25.08 | 1.09 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 580 | 580 |
| Кілбаса салямі | 1 кг | 913 | 913 |
| Сасіскі | 1 кг | 780 | 887 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 390 | 425–465 |
| Рыс | 1 кг | 300 | – |
| Цукар | 1 кг | 176 | 170 |
| Грэчка | 1 кг | – | – |
| Алей | 1 л | 480 | 460 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 179 | 184 |
| Маянэз | 250 г | 80 | 80 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 550 | 550 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 180 | 200 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 160 | 160 |
| Лімоны | 1кг | 500 | 510 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 0,5 л | 90 | 90 |
| Масла | 1 кг | 600 | 600 |
| Тварог | 1 кг | 200 | 200 |
| Малако | 1,5 л | 80 | 90 |
| Бульба | 1 кг | 50 | 70 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 200 | 220 |

яблыкі ........................ 1 кг ............ 50–80
кавун ........................ 1кг ............ 70
капуста ........................ 1 кг ............ 55
агуркі ........................ 1 кг ............ 80
памідоры ........................ 1 кг ............ 180
перац ........................ 1 кг ............ 180
цыбуля рэпчатая ............ 1 кг ............ 140

# Гандляры рэчавых рынкаў на работу не выходзяць

МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак прайшоў прафсаюзны сход прадпрымальнікаў маладзечанскага рэчавага рынку. Гандляры вырашылі на гэтым тыдні на работу не выходзіць. У наступны панядзелак яны збяруцца зноў. З тым жа парадкам дня – "аб магчымасці працягвання работы".

У сераду ўдзельнікі прафсаюза перакопвалі некаторых "непартыйных" калег спыніць работу. Старшыня маладзечанскай пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі прадпрымальнікаў рэчавых рынкаў Мінска і вобласці "Садружнасць" **Тамара Багачова** гаворыць:

– Нашу акцыю нельга лічыць забастоўкай. Мы проста не выйшлі на работу. Сёння гандляваць – гэта падстаўляць сябе пад арышт і канфіскацыю тавару.

Маладзечанскія гандляры не маюць прэтэнзій да мясцовых улад. Пустыя рэчавыя рынкі – агульнарэспубліканская акцыя. Людзі чакаюць ад рэспубліканскіх улад перагляду апошніх дэкрэтаў і пастаноў.

Прадпрымальнік **Яўгенія Клімовіч** мае сертыфікат якасці на свой тавар: адзенне, абутак, бялізну. Мае гігіенічнае пасведчанне (тавар не шкодны для здароўя), накладныя (дзе набыла тавар). Аднак частка тавару набываецца за мяжой рэспублікі, за долары. Таму неабходна мець і дакумент аб набыцці валюты.

– Чэкі нашых абменных пунктаў несапраўдныя, – гаворыць Яўгенія, – прадпрымальнік павінен мець рахунак у банку і праз банк заказаць валюту. У сваю чаргу, банк заказвае валюту на міжбанкаўскай валютнай біржы. За долары плацім беларускімі рублямі па іх курсе. Што вельмі нявыгадна. Зразумела, хто працуе з айчыннымі вытворцамі, таму прасцей. Сертыфікат, накладныя атрымаеш, ды і разлік за тавар у рублях.

У "РГ" (№19 ад 7 мая) мы пісалі пра першы нявыхад на работу (рынак) гандляроў. Тады гаворка ішла пра немагчымасць у кароткі тэрмін зрабіць сертыфікат і атрымаць гігіенічнае пасведчанне. Улады рэспублікі далі магчымасць гэта зрабіць – адтэрмінавалі выкананне дэкрэтаў і пастаноў да верасня. Аднак за гэты час выйшаў чарговы дэкрэт аб пацверджанні набыцця валюты. Калі ў поўную моц запрацуе рэчавы рынак, не ведае ніхто.

ВІЛЕЙКА. У сераду на цэнтральнай плошчы было ўсяго дзве палаткі. Гандляры, як відаць, таксама адпачывалі.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

*МЕДЫЦЫНА*

# 50 тысяч нямецкіх марак каштуе першая ў краіне аўдыёлагічная лабараторыя

*МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні пры дзіцячай бальніцы адкрылася першая на Беларусі аўдыёлагічная лабараторыя. Мясцовыя ўрачы Анатоль і Наталля Краўцовы, акрамя сваёй непасрэднай работы, будуць выраблясць укладкі для слыхавых апаратаў. Абсталяванне для работы ў якасці гуманітарнай дапамогі перадала фрау Швайгер — гаспадыня падобных лабараторый у Германіі, Маскве, Ташкенце.*

Гады тры таму 12 дзяцей, у якіх праблемы са слыхам, разам са сваімі маці наведалі Германію. Там яны прайшлі медыцынскае абследаванне, атрымалі кансультацыі і, самае галоўнае, укладкі для слыхавых апаратаў. Без іх апарат ператвараецца ў рэч малапатрэбную. Таму, як гавораць бацькі хворых дзяцей, укладкі – гэта "палова жыцця". Мяняць іх трэба праз 3–6 месяцаў. Дзеці ж растуць.

**Франц Айзеле**, адзін з лепшых акустыкаў Германіі:

– Мы заўсёды гатовыя дапамагаць хворым. Але, чым прымаць вас у сябе, затрачваць на дарогу, пражыванне вялікія сродкі, ці не прасцей было б распачаць выраб спецыялізаваных укладак на месцы, у Беларусі? Бо менавіта за імі вы і прыязджаеце. Мы звярнуліся да фрау Швайгер, і яна без усялякай выгады для сябе ўклала ў маладзечанскую лабараторыю 50 тысяч марак.

Франц і Эрыка Айзеле маюць у Германіі прыватную клініку. Работнікаў у нашу лабараторыю адбіралі на конкурснай аснове – Анатоля і Наталлю Краўцовых запрасілі на вучобу ў Германію. Пасля папяровай вайны з рознымі нашымі ведамствамі лабараторыя пачала працаваць.

Галоўны ўрач маладзечанскай дзіцячай бальніцы **Уладзімір Шаёўка:**

– Паслугі лабараторыі будуць платныя. Бо ёй трэба пашырацца. Бясплатна разыдзецца толькі першая партыя вырабаў.

Старшыня маладзечанскага "Лайнз–клуба" **Алена Бярнадская:**

– Два гады запар наш клуб адпраўляў дзяцей у Германію. Потым мы адпрацоўвалі варыянт адкрыцця ў Маладзечне лабараторыі. Атрымалі абсталяванне і адразу перадалі яго ў дзіцячую бальніцу.

Былы старшыня грамадскай арганізацыі "Камертон" (дзеці з парушэннямі слыху) **Таццяна Папова**:

– Лабараторыю работай заваляць. У горадзе толькі хворых дзяцей за тры дзесяткі. А колькі дарослых! А ўлічыць, што гэта адзіная лабараторыя ў краіне! Ведаеце, калі нашым дзецям упершыню давялі, што яны будуць хоць крыху чуць, і дзеці, і мы, бацькі, пачалі плакаць ад шчасця.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Галоўны ўрач дзіцячай бальніцы Уладзімір Шаёўка з Францам і Эрыкай Айзеле.*



*Урачы Наталля і Анатоль Краўцовы і будуць займацца выпускам укладак для слыхавых апаратаў.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*АКЦЫІ*

# Скарочаны канцэрт

МАЛАДЗЕЧНА. На рок–канцэрце «Моладзь за вольную Беларусь» у мінулую пятніцу міліцыя затрымала каля чатырох дзесяткаў чалавек, у асноўным, моладзі. Відавочна, што падобныя акцыі набываюць усё большую палітычную афарбоўку; адсюль і супрацьстаянне моладзі (натуральна, не надта стрыманай і разважлівай) і органаў правапарадку, якія прывыклі сябе лічыць вяршыцелямі лёсаў. Абодва бакі не абцяжарваюць сябе джэнтльменскімі манерамі, таму і ўзнікаюць узаемныя прэтэнзіі і абвінавачванні. Шкадаванне выклікаюць і спробы міліцыі абразіць работнікаў гарвыканкома, якія і давалі дазвол на акцыю.

Што тычыцца канцэрта непасрэдна, то не ўсе групы спявалі на беларускай мове. "Green Snake", "Happy Face" і "God's Tower" – на англійскай, гучалі песні і на рускай. У гэтым кантэксце назва канцэрта "Моладзь за Беларусь" выглядае не зусім зразумелай.

Музыканты на сцэне паводзілі сябе прыстойна. Калі не лічыць таго, што музыкант маладзечанскай групы "Happy Face" за выстаўлены сярэдні палец правай рукі апынуўся ў КПЗ і знаходзіўся там некалькі гадзін. У **Лявона Вольскага**, лідэра мінскай групы "N.R.M.", міліцыя забрала аўтамабіль, і музыкант паехаў дадому на электрычцы.

Тыя, хто прыйшоў на канцэрт, былі, у большасці сваёй, цвярозыя. Бойк не адбылося, аднак без ужывання ненарматыўнай лексікі не абышлося.

Міліцыя прымушала слухачоў здымаць упрыгожванні ў выглядзе ланцужкоў. Па не зусім зразумелых прычынах мясцовыя ўлады скарацілі канцэрт на дзве гадзіны.

*Аддзел інфармацыі.*

